ніхто ве стараецца задзержаць, а абменівае на маркі або «нямецкіе» рублі.

МІТАВА. Тутэйшаму курляндзкаму генэральнаму суперінтэндэнту Берневічу, тэологічны факультэт унівэрсытэту ў Ліпску выдаў дыплём доктара тэологіі «honoris causa» (пачэсны).

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

БАЗЭЛЬ. Член спауніцельнаго комітэту рады раб. і солд., соцыал-рэволюцыонер Рубанов прыбыў у Парыж і аддаў Пэнлеве пісьмо Керэнскаго, пісанае ўласнай рукой.

ЖЭНЕВА. Расейскім ваенным прэдстаўнікам на парыжскай конфэрэнціі саюзьнікоў назначэн генэрал Головін, прафэсар ваенна-юрыдычнай акадэміі.

У Кацерынаславе, Арле і Тамбове узняліся разрухі проці жыдоў, мейсцамі абярнуўшыеся ў пагромы. Між расейскімі жыдамі гэтые здарэньня вызвалі вялікі перапуд.

ЛОНДОН. Пецярб. рада раб. і салд. пастанавіла ўсемі галасамі трэбаваць дапушчэньня прэдстаўнікоў яе ў парыжскай конфэрэнціі.

ШТОКГОЛЬМ. „Утро Рассіі“ даносіць, што заграні́чные паслы і консульствы выедуць с Пецярбурга не пазьней 28 лістапада. Іх архівы ўжо перавезены ў Маскву.

Блізка ўсё цывільнае насяленьне Рэвэля ўжо пакінуло место. Сюды прыбыла камісія з 19 англіцкіх марскіх і сухапутных афіцэроў. Камісія памешчаецца ў доме Мікалаеўскай гімназіі.

ПЕЦЯРБУРГ. Цецярбург, Кронштадт і ўся Фінляндзія аддадзены пад уласць глаўнакамандуючаго паўночным фронтам.

ШТОКГОЛЬМ. Ходзяць чуткі аб спадзеваным паўтарэньні Корніловскай авантуры. Вялікая маскоўская конфэрэнція пад кіраўніцтвам Родзянкі і Мілюкова бытцым то прыняла рэволюцію аб гэтым. Кіраваць выступленьнем будзе генерал Брусілов. Рускій бутцым-то спагадае гэтым плянам. Кажуць, што Керэнскій гатоў аддаць Брусілову глаўную каманду арміей.

ШТОКГОЛЬМ. На палудзенна-заходнім фронці утворэн салдацкі саюз, каторы маніцца дабівацца скораго міра.

Салдаты вельмі зрабавалі вядомы Пачаёўскі манастыр.

ПЕЦЯРБУРГ. Падгатавіцельны парлямэнт. Урад прыстаў на прыняты закон аб абяўленьне дня революціі 12 марца за нацыональнае сьвята.

ПЕЦЯРБУРГ. У адказ на сэпаратыстычны кірунак генэральнаго сэкрэтарыату Украіны тымчесовы ўрад загадаў не даваць больш сэкрэтарыату крэдытаў з агульна-імперскай казны.

БАЗЭЛЬ. Усе ваенные судны чорнаморскаго флота вывесілі украінскіе сіня-жоўтые флагі.

КІЕЎ. Украінскі сэкрэтарыат паведаміў цэнгральны ўрад у Пецярбурзі аб сваей пастанове організаваць асобные украінскіе атрады з украінскіх казакоў.

ГЭЛЬСІНГФОРС. Новы фінляндзкі сэйм на першым заседаньні выбраў перэвагай 67 проці 37 галасоў дэпутата Лунсона (младафінна) за прэзыдэнта свайго. Лунсон заявіў, што край пастанавіў сам сабой упраўляць.

ШТОКГОЛЬМ. Паводлуг расейскіх офіцыальных заяў, ураджай 1917 году — ніжей сярэдняго.

ПЕЦЯРБУРГ. Каб зберагчы апал, міністэр дарог загадаў на кожнай чыгунцы пускаць толькі па два поезды.

## З усяго сьвету.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Замест атрымаўшаго адстаўку Міхаэліса імпэратар назначыў за імперскаго канцлера гр. Гэртлінга. Яму ўжо 74 гады. Гэта—быўшый галава каталіцкай партыі цэнтру ў Рэйхстагу, значыць, першы народны дэпутат, заняўшый мейсцо Канцлера.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.) Прэзыдэнт Рэйхстагу сазывае заседаньне Рэйхстагу на 22 лістопада а 3 гадз. Імперскі канцлер, гр. Гэртлінг, будзе прамаўляць на ім.

ВЕНА. Чароднае заседаньне аўстрыяцкай і вэнгерскай дэлегаціі адбудзецца ў Вене ў пачатку сьнежня. На ім будзе гутарка аб заграні́чнай палітыцэ.

БЭРН. У Парыжы, Бордо і іншых францускіх местох адбыліся обыскі, давёўшые істнаваньне арганізаціі дзеля павароту у Франціі монархіі. Знайшлі аружжэ і лятучые лісткі з загалоўкам: „нехай жыве Кароль!“

БЭРН. Францускі ўрад пастанавіў не даць францускім соцыалістам пашпартоў на соцыалістычную інтэрнацыональную конфэрэнцію ў Бэрне—с тае прычыны, што там будуць і соцыалістычные дэпутаты с цэнтральных дзержаў.

ЦЮРЫХ. Опозыція у францускім парлямэнці, зложэная са 138 соцыалістоў, прэдлажыла сазваць супольнае патайнае заседаньне парлямэнту і сэнату дзеля перегляду ваенных мэт саюзьнікоў.

МАДРЫД (В.Т.Б). Новы міністэр-прэзыдэнт Гарця Прыэто заявіў, што ён будзе апірацца на левые партыі і што новы ўрад будзе дзержацца поўнай неутральнасьці.

НЬЮ-ІОРК. 26 соцыалістоў, у тым ліку перэважна немцоў, за агітацію проці рэкруцкаго набору засуджэны ад 1 да 5 гадоў у вастрог і на штраф грашмі ад 1.000 да 3.000 доляроў.

Амэрыканскі міністэр заграні́чных двел, Лянсінг, паводлуг чутак, мае доказы аб істнаваньні патайнаго нямецка-швэдзкаго саюза.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкіе апавешчэньня:

**2. XI. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* У Фляндры сільная артылерыйская бітва ўздоўж Ізэра, асабліва пры Діксмуйдэне і між лесам Гутгольст і Ліс.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На каналі Уаз-Эн і ўздоўж дэ Дам—сільны агонь. Вялікіе францускіе сілы пасьля барабаннаго агня атакавалі пры Врэ, але былі адбіты.

**Усходні тэатр:**

Без перамен.

**Італьянскі тэатр.**

Уздоўж сярэдняго і ніжняго цячэньня Тальяменто у нашых войск перадавые сустрэчы з італьянцамі. Італьянскіе брыгады, трымаўшыеся ешчэ на усходнім беразі Тальямэнто, адкінуты, або ўзяты ў палон. Ад даліны Фэля да Адрыатыцкаго мора на левым беразі Тальямэнто італьянцоў больш німа.

**3. XI. Заходні тэатр:**

У Фляндры сільны агонь пры Діксмуйдэне.

У начы с 1 на 2 лістапада мы самахоць плянова ўзялі свае лініі са Шмэн дэ Дам. Ворагі нічога не заўважылі і да поўдня далей абстрэлівалі пакінутые намі пазыціі

---

рые матер'ялы заўсёды можна было атрымліваць як на мейсцы, так і з суседніх краёў па сыстэме рэк і чугунак; урэшці, тые-ж рэкі даюць танную сілавую энэргію, дый рабочые рукі былі тут недарагіе. Аднак, усё гэта не магло быць выкарыстано ў поўнай меры: аснаўная прычына гэтаго — недастача свабодных вялікшых капіталоў.

Ня гледзячы на тое, што да 1911 году Беларусь была зусім пазбаўлена земскаго самаупраўленьня, а палавіна краю ня мела земств ажно да нашых дзён, ня гледзячы на недастачу якоў-будзь грамадзкай організаціі, каторая бараніла-бы інтэрэсы селянскай гаспадаркі, апошняя з экономічнаго пагляду такжэ дайшла была ў Беларусі шмат вышэйшаго развіцьця, чым у Вялікарускіх губэрнях. Бо народ беларускі крые ў сабе вялізарную духовую сілу, каторая выяўляецца ў творчай працы. Паводлуг досьледоў п. Александра Уласова (стацьця „Белоруссія і Літва“ у кнізе „Вся Россія“ на 1912 год), важную роль у гэтым адыгралі такжэ агульные варункі: суседзтво заходняй граніцы, мягкі, бытцым марскі клімат, выгодные дарогі — чугункі і сыстэма рэк, урэшці — знаменіта наладжэная таргоўля, створэная тут жыдамі. У Беларусі кожнае з незвычайна чысьленых мястэчак—гэта быў здаўна рынак збыту для ўсіх вясковых прадуктоў; дый жыдоўскіе скупшчыкі сыстэматычна аб'ежджалі беларускіе вёскі, купляючы ўсё, што давала земля і што мело ход у месьці, або і заграніцай. А пад той жэ час цераз меру вялікая густата жыдоўскаго мястэчковаго населеньня у „межах аседласьці“ (абнімаючы перш за ўсё наш край), ды лішняя чысьленасць тарговых пасрэднікоў давялі конкурэнцію да такой меры, што цэны як сельска-гаспадарскіх прадуктоў, так і тавароў, падвазіўшыхся з мест, у беларускіх мястэчках толькі зусім незначна рожніліся ад цэн на вялікіх рынках. З гэтых прычын адносная заможнасць беларускай селянскай массы, ня гледзячы на недастачу зямлі і цяжкіе агульна-палітычные варункі, узрастала ад упадку паншчыны хутчэй, чым у вялікарускіх губернях. Цікава, што пад той час, як напрыклад, у Самарскай губерні за селянамі—вялікарусамі лічылося нядоімкі за пазыкі на стравааньне 29.000.000 руб., а ў Варонежскай — 12.000.000, у Беларусі такіх нядоімак зусім німа.

Як развівалася сельская гаспадарка ад скасаваньня прыгону, сьведчаць красамоўна, напрыклад, дзьве гэткіе цыфры: ў 1864 гаду (гл. Столпянскій) орнай ральлі ў Віленскай губерні было 1.104.735 дзесяцін, а паводлуг статыттыкі 1887 году («Главнѣйшія данныя поземельной статистики по обслѣдованію 1887 г., т. XXII стат. Рос. Имп,, изд. 92 — 1901 г.) ў тэй жэ губэрні было пад упраўай ужо 1,428,761 дзес.

А трэба адзначыць, што клапоты старога расейскаго ураду аб падняцьце культуры нашаго народу ніколі не былі лішне вялікіе. Мэта „казённай“ асьветы — гэта было жаданьне пры помачы школы абертаць беларусоў у маскалёў. А як і тых абрусіцельных школ было, наагул мала, дык беларусы былі прымушэны самі дахо дзіць граматы. Вось, па ўсей Беларусі бачым у вёсках патайные школы, каторые—разам з вучыцелем і вучнямі—адбывалі падарожу с хаты ў хату. Якую вагу мела ў нашым краю прыватная навука граматы, паказваюць цыфры: яны гавораць, што паніжэньнем чысла неграматных край наш далёка не абязан „казёнай“ школе, бо ў тых мейсцах, дзе граматнасць стаіць найвыжэй, у казённые школы хадзіло найменш дзяцей. Вось гэтые цыфры

(урадовая статыстыка 1897 г.):

у Віленскай губ. граматных 29,3%; на 1000 жых. у «казён.» школы хадз. 28 дз.

у Гродненскай губ. граматных 29,1%; на 1000 жых. у «казён.» школы хадзіло 44 дз.

у Вітэбскай губ. граматных 24,6%; на 1000 жых. у «казён.» школы хадзіло 38 дз.

у Мінскай губ. граматных 17,7%; на 1000 жых. у «казён.» школы хадзіло 38 дз.

у Смаленскай губ. граммтных 17,2%; на 1000 жых. у «казён.» школы хадзіло 53 дз.

у Магілёўскай губ. граматных 17,0%; на 1000 жых. у «казён.» школы хадзіло 52 дз.

Тут гожэ прыпомніць, што ешчэ ў канцы XIX сталецьця селянскім дзецям быў закрыт доступ да шмат якіх сярэдніх школ; напрыклад, у Мінскую гімназію «мужыцкіх сыноў» пачалі прынімаць толькі ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў. Тое-ж было і ў іншых мейсцах, дзе ў сярэднюю школу, згодне з інструкціямі с Пецярбурга, вельмі неахвотне прынімалі «кухаркіных дзяцей» да супольнай навукі з дзяцьмі „вышэйшых“ станаў...

(Далей будзе).

